Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 250.000 м.

# Голас Беларуса

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць два разы у тыдзень. Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 3.000000 м. Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. Цана абвестак: перад тэкстам 400.000 мк., сярод тэксту 300.000 м. і на 4 стр. 250.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 6. Вільня, Нядзеля, 2-га сакавіка 1924 г. Год I.

# 2-га—9-га сакавіка Міжнародны Тыдзень Работніцы.

## Рэвізія трактатау і Беларусы.

Пераход дзяржаўнае ўлады ў Англіі ў рукі работніцкае партыі не здарма выклікаў трывогу сярод францускіх і „саюзьніцкіх“ мілітарыстаў. Сьледам за рашучым паваротам англійскае палітыкі на карысьць Нямеччыны і Саюзу Сацыялістычных Радавых Рэспублік новы ўрад Англіі пачынае атаку на Вэрсальскі трактат.

Колькі дзён таму назад англійскі міністар унутраных спраў, Гэндэрсон, сказаў публічную прамову, у якой рашуча дамагаўся рэвізіі Вэрсальскага трактату адумыснай сусьветнай конфэрэнцыяй, ці Лігай Нацыяў. Міністар адкрыта заявіў, што лічыць міравыя трактаты, на якіх апіраецца сучасная Эўропа, шкоднымі для эканамічнага жыцьця Эўропы, а гэная шкоднасьць зьмяшчаецца — згодна з выясьненьнямі п. Кейнэса ў яго кніжцы аб гаспадарчых выніках трактатаў — у „падзеле адналітых гаспадарчых тэрыторыяў Аўстрыі, Нямеччыны *і Расеі* на рад дробных арганізмаў, узьвялічэньне мытных бар'ераў, сыстэмаў чыгунак, адміністрацыйнае арганізацыі і г. д.“.

Прэм'ер Мак-Дональд у англійскай палаце сказаў, што ўрад адказывае за заявы сваіх сяброў толькі тады, калі робяцца афіцыяльна ад яго імя ў парляманце. Аднак, гэткая заява прэм'ера зусім не паказвае, што ўрад ня годзіцца на дамаганьне перагляду трактатаў. Трэба думаць, што выступленьне Гэндэрсона мае значэньне, як кажуць, „пробнае бомбы“, і, калі не сягоньня, дык заўтра Англія пачне афіцыяльныя крокі ў гэтым кірунку.

Польская прэса вельмі балюча адчула пагрозу, якая ад магчымасьці рэвізіі міравых трактатаў узьнімаецца ў першы чарод для Польскае Рэспублікі. Польшча, як незалежная дзяржава, хоць і створана Нямеччынай, але замацавана іменна гэнымі трактатамі: трактат Вэрсальскі забясьпечывае яе заходнія граніцы і доступ да Балтыцкага мора праз выразаны на нямецкай тэрыторыі „гданскі калідор“, а трактат Рыжскі—усходнія межы. Калі-ж ці то сусьветная канфэрэнцыя, ці Ліга Нацыяў пачне пераглядаць трактаты, дык у першы чарод будуць закрануты іменна межы Польшчы—і то, судзячы паводле кніжкі п. Кейнэса, як з Нямеччынай, так і з ССРР. Так прынамсе аднагалосна заяўляюць польскія часопісі— „Gaz. Warzs.“, „Gaz, Por.“ і іншыя.

Трывога польскае прэсы зусім абаснаваная. І калі толькі на парадак дня ў міжнародных адносінах стане справа „адналітых тэрыторыяў“ б. Расеі, дык нельга будзе абыйсьці моўчкі—паміж іншым — і справы Беларусі, якая цяпер уваходзе, як самастойная рэспубліка, у склад ССРР. Іменна „адналітая“ тэрыторыя Беларусі, падзеленай паміж Польшчай і Расеяй, нязвычайна церпіць ад гэтага падзелу, бо такім парадкам Польшча адрэзала ёй доступ да Балтыцкага мора. Прыкладам, каб праехаць з Менску ў Лібаву, якая раней служыла натуральным портам для Меншчыны, цяпер прыходзіцца тройчы пераяжджаць праз граніцу: праз польска-радавую, літоўскую і латвійскую. Ад гэтага церпіць у роўнай меры і Латвія, якая жаліцца, што ў лібаўскім порце цяперака няма ніякага руху.— А справа Нёмна і сплаву па ім? Гэта-ж Нёман пачынаецца пад самым Менскам, і цэлая сець нёманскіх прытокаў цяцер аказваецца безкарыснай.

Справа Беларусі можа быць паднята на міжынародным форуме яшчэ і затым, што тэрыторыя Радавае Беларускае Рэспублікі, якая абыймала дагэтуль толькі 6 паветаў Меншчыны, цяпер будзе абыймаць цэлы рад паветаў Віцебскай, Гомельскай і Смаленскай губэрняў. І хаця часова частка далейшых усходніх беларускіх паветаў усё яшчэ астаецца пад загадам Масквы, дык ўсё-ж абшар Радавае Беларусі павялічываецца больш, чым удвая, і прадстаўляе гаспадарчую адзінку настолькі паважную, што з інтарэсамі яе *павінна будзе* лічыцца больш, чым у часох Рыжскага міру, уся саюзная арганізацыя радавых рэспублік.

Дый калі ўжо справа дайшла-бы да гутарак аб трактатах, дык і апрача гаспадарчых матываў істнуюць матывы нацыянальнага характару, якія могуць высунуць на першы плян справу Беларусі, ды таксама Украіны: матывы гэтыя дaець сама Польшча, і аб іх ужо гэтулькі пісалася і ў беларускай і ў польскай прэсе, што паўтараць іх няма ніякае патрэбы.

А пад той час, як у Заходняй Беларусі—пад уладай Польшчы — беларускаму грамадзянству з кожным днём становіцца цяжэй дыхаць, на Усходзе—за гранічнымі капцамі—йдзе кіпучая работа ў кірунку аб'яднаньня ўсіх беларускіх абшараў у адну Сацыялістычную Радавую Рэспубліку Беларусь. У гэтым кірунку энэргічна працуюць ня толькі беларускія камуністы, у якіх, трэба думаць, іграюць ролю, паміж іншым, і *нацыянальныя матывы*, але і Цэнтральны Камітэт Расейскае Камуністычнае Партыі, які, пэўне-ж, кіруецца *агульнымі* заданьнямі і мэтамі радавае палітыкі. Дзеля кіраваньня ўсей партыйнай і радавай работай на абшарах павялічанае Беларусі створана Часовае Беларускае Бюро іменна пры Ц. К. Р. К. П. Адначасна-ж з гэтым у радавых газэтах друкуюцца рэзалюцыі правінцыянальных зьездаў і канфэрэнцыяў на тэрыторыі Радавае Беларусі, у якіх гаворыцца аб патрэбе „зьбіраньня Беларусі“ ня толькі на ўсход, але і на захад ад Менску....

Усе гэтыя праявы вельмі характэрныя і вельмі красамоўныя. Яны ясна паказуюць, якой дальнавіднай зьяўляецца палітыка ССРР у беларускім пытаньні і як рэзка яна розьніцца з гэтага пагляду ад палітыкі Польшчы, каторая ніяк ня можа навучыцца глядзець далей заўтрашняга дня.

---

**Ці споўнілі Вы свой абавязак адносна Цэнтр. Беларускай Школьнай Рады? Ці заплацілі Вы належачую ад Вас грашовую складку за гэты месяц?**

---

## Міжнародны Тыдзень Работніцы.

З інцыятывы Жаноцкага Сэкрэтарыяту III Інтэрнацыяналу ўва ўсім сьвеце адбудзецца „Міжнародны Тыдзень Работніцы“ ад 2-га да 9-га сакавіка ўключна.

„Міжнародны Тыдзень Работніцы“ мае на мэце аб'яднаньне працоўных кабет для агульна-пралетарскай справы і ўцягваньне работніц у рады адналітага фронту працоўнай клясы.

Вайна і рэвалюцыя высунулі справу працоўных кабет. Шмат на кім з кабет цалком ляжыць цяжар утрыманьня сям'і, павялічыўся лік работніц у прамысловасьці, шмат сялянак, страціўшы на вайне мужоў і братоў, прымушаны самі вясьці сваю гаспадарку, ды й інтэлігентная працоўная кабета ўсё часьцей выступае, як утрымацелька свае сям'і. Рэвалюцыя прынясла зраўнаньне жанчын у палітычных правох; гэта дае магчымасьць жанчыне прыймаць чыннае ўчасьце ў грамадзкіх і палітычных справах. Ува ўсіх справах, высоўваемых на парадак дня, у якіх уся маса зарганізаванага працоўнага народу займае тое, ці іншае становішча павінны браць учасьце і жанчыны, асабліва ў сучасны мамэнт—мамэнт грознай небясьпекі для працоўнай клясы.

Уся сацыяльная нядоля, якая ў сучасны мамэнт так страшна душыць народ, усім сваім цяжарам перад усім ускладаецца на працоўную жанчыну. Паўсюднае абядненьне народных масаў, цяжкая барацьба за істнаваньне ў варунках паваеннай адбудовы капіталізму, усьцяж узрастаючай дарагоўлі і абніжэньня заработнай платы, узрастаючы націск капіталістычнай рэакцыі на дасюлешнія заваяваньні клясы працоўных, — больш за ўсё ўціскаюць жаноцкі пралетарыят. Праца жанчын, якая шмат больш чым праца мужчын, вызысківалася перад вайной, цяпер аплачваецца яшчэ горш, але гэты павялічаны вызыск жаноцкай працы ня так становіцца выпуклым на фоне агульнага павялічэньня вызыску.

Усё гэта лёгка заўважыць, калі ўвайсьці ў палажэньне маткі-работніцы і паглядзець, як адбіўся на яе долі крызіс капіталістычнае гаспадаркі.

Жанчына, якая мае дзяцей і вядзе хатнюю гаспадарку, прымушана заўсёды працаваць ня менш, а нават больш, чым мужчына. Яе дзень працы не абмяжованы, а сучасны крызіс капіталістычнай гаспадаркі яшчэ больш пагоршыў палажэньне жанчыны. Цяпер сьмела можна сказаць, што жанчына працуе шмат больш, чым мужчына. Яе даўгі рабочы дзень запоўнены вельмі цяжкаю працаю, якая галоўным чынам ляжыць у тым, каб пракарміць і адзець сям'ю з заработку мужа, або свайго ўласнага, якога не хапае на ўтрыманьне сям'і. Нізкія работніцкія заработкі, якія яшчэ абніжаюцца праз спадак валюты і ўзрост дарагоўлі, прымушаюць жанчыну ўвесь час клапаціцца, як зьвязаць канцы з канцамі і павялічваюць яе фізычную працу. Жанчына шмат часу прымушана страціць на выстойваньне гадзінамі ў розных „хвастах“, у шуканьні, дзе-б можна было танней купіць патрэбныя прадукты. Гэтая праца, зьвязаная з хатняй гаспадаркай, становіцца запраўдным пеклам.

Яшчэ больш цяжкім зьяўляецца палажэньне тых працоўных матак, якія страцілі сваіх мужоў у часе вайны, або мужы якіх загінулі на фабрыках, капальнях, у часе эпідэміяў, у часе бежанства і г. д. Запамогі, якія даюцца ў гэткіх выпадках урадам ці капіталістамі, маюць характар жабраніны. Удава прымушана брацца за першую-лепшую працу, каб хоць бульбай пракарміць дзяцей. Калі ня ўдасца аддаць іх у які-небудзь прытулак, дык яны прымушаны свой дзіцячы век і сілу прадаваць капіталістам, ці йсьці жабраваць, наражаючыся на дэмаралізацыю, фізычнае і маральнае выраджэньне, без асьветы і ўзгадаваньня.

Вось якая цяжкая доля працоўнае жанчыны, вось які страшэнны вызыск жаноцкае працы пры капіталістычнай сыстэме гаспадаркі.

Паўстае пытаньне, чаму-ж ня гледзячы на ўсё гэтае, працоўныя жанчыны так мала бяруць учасьця ў палітычным і прафэсыянальным руху пралетарыяту і наагул у грамадзкім жыцьці? Здавалася-б, што жанчына, зьяўляючыся найбольш вызыскуемай часткай пралетарыяту, павінна-б стаць на чале ў барацьбе з вызыскам, крыўдай і ўціскам. Аднак мы гэтага ня бачым. Якая-ж прычына гэтага зьявішча? Ці можа

ца тэрыторыяльнай аўтаноміі для беларускіх земляў;

2) што названае таварыства па сваей канструкцыі зьяўляецца: аднабокім, не абымаючы усіх нацыянальнасьцяў, жывучых у нашым краі, і не зьяўляецца выражэньнем аўтанамічнай думкі ў яўным і чыстым відзе;

3) што сябры клюбу Б. Тарашкевіч і А. Уласаў заявілі аб сваей постаяннай салідарнасьці з аснаўной пляцформай Клюбу адносна незалежнасьці і аўтаноміі і

4) што Клюб, у цэлым ня будучы салідарным у тактыцы з памянёнымі сябрамі, прыймае адстаўку Старшыні Клюбу Б. Тарашкевіча і пастанаўляе выбраць новы прэзыдыум.

**Беларуская Сацыялістычная фракцыя.** У Беларускім Пасольскім Клюбе ўтварылася фракцыя незалежных сацыялістаў.

**У Беларускай Драматычнай Майстроўні.** 28-га мінулага лютага Віленскі Акружны Суд зацьвердзіў Статут Т-ва „Беларуская Драматычная Майстроўня". Вітаем нашае грамадзянства з новай паўстаўшай культурнай інстытуцыяй і спадзяемся, што праца яе будзе карыснай для нашага культурнага адраджэньня.

У нядзелю, 9-га сакавіка, Майстроўня ладзіць вечар у памяць Тараса Шаўчэнкі. Пачатак а 7 гадз. ўвечары. Генаральная рэпэтыцыя (здача працы) п'есаў: „У зімовы вечар" і „На папасе", вызначана, як мы даведаліся, на 7-га сакавіка. Неўзабаве пасьля гэтага праца гэтая будзе паказана і грамадзянству.

**Новая дзікая выхадка мяйсцовай адміністрацыі.** Падаём у перакладзе тэлеграму, высланую Дырэктарам Віленскай Беларускай Гімназіі гр. Астроўскім у справе новых гвалтаў мясцовай адміністрацыі над Беларускай Гімназіяй.

*Сойм. Сэнатар Кржыжаноўскі,*
*Пасол Тарашкевіч. Варшава.*

Асэнізацыйны абоз, наняты, гімназіяй для ачышчэньня абсалютна перапоўненых ямаў, па загаду Дырэкцыі Публічных Работаў не дапушчаны да выкананьня вышэйназваных чыннасьцяў. Грознае палажэньне прымушае спыніць заняткі. Справа аб уласнасьці гэтых будынкаў у Судзе. Прашу аб інтэрвэнцыі ў адносных уладаў і абароны ад нячуваных дзікіх гвалтаў з боку адміністрацыі Дырэкцыі Публічных Работаў. Копію пасылаю Дэлегату Ураду, які, на жаль, цяпер хворы.

Дырэктар **Астроўскі.**

## Весткі з вёскі.

### М-ка Стаўпцы.

У нашым мястэчку 24 лютага адбыўся справаздаўчы мітынг нашых паслоў. На гэты зьезд-мітынг, аб якім паведамлялася праз газэту, сабраліся выбаршчыкі ня толькі нашага павету, але й суседніх. Добрая сонечная пагода вырабіла добры настрой. Усім хацелася паслухаць справаздачу, і ўсім хацелася ведаць аб тым, што робіцца на белым сьвеце. А гадз. 12 дня заля, у якой можна зьмясьціць болей як 400 чалавек, была паўнюсенька.

Першым прамаўляў пасол нашага вокругу *Б. Рагуля*, які, прывітаўшы грамаду ад імя Беларускага Пасольскага Клюбу, расказаў нам пра адносіны Бел. Клюба да іншых партый, а таксама азнаёміў нас з „панскай" уставай аб парцэляцыі і асадніцтве і з уставай аб самаўрадзе. Паслы *Валошын і Мятла* віталі сход ад імя выбаршчыкаў сваіх вокругаў: Беластоцкага і Сьвянцянскага. Першы гаварыў аб скарбе, адбудове краю і адміністрацыі, а другі аб школе, царкве і аб патрэбнасьці нацыянальнага аб'яднаньня. Пры гучных вокляскаx прысутных канчалі свае прамовы паслы. Чулася шчырасьць у прамоўцаў і еднасьць сярод слухачоў, якія складалі на гэты раз як-бы адну сям'ю. Сяляне віталі сваіх прадстаўнікоў і дзякавалі за прыезд і інфармацыі. Мы добра ведаем, што трудна ў Сойме нашым паслам пры сучасных варунках дабіцца чаго-небудзь, што памагло-б нам у цяперашнім беспатольным жыцьці, і дзеля гэтага лічылі-б патрэбным, каб нашы паслы часьцей прыязджалі да нас і знаёмілі нас з усім, што робіцца ў Варшаве, а таксама і на белым сьвеце

У канцы мітынгу пасол Мятла заклікаў сялян злажыць ахвяры на бедных дзетак беларускага прытулку ў Вільні. З вялікай ахвотай падхадзілі сяляне да стала і клалі свае працоўныя маркі, добра ведаючы, што „з міру па нітцы—голаму кашуля". Ахвяр сабрана пятнаццаць міліёнаў п. м. **Тутэйшы.**

## УСХОДНЯЯ БЕЛАРУСЬ.

## З Менску.

**Справаздачная кампанія аб выніках 2-га Усесаюзнага Зьезду Саветаў.** Культурна-асьветны аддзел Рады Прафсаюзаў Беларусі мае пачаць у хуткім часе справаздачную кампанію аб выніках працы 2-га Ўсебеларускага Зьезду Саветаў.

Для гэтай мэты ў рабочых клюбах, на прадпрыемствах і ўстановах на сходах рабочых будуць рабіцца даклады аб пастановах Зьезду.

**Да прадбудучага выпуску студэнтаў БДУ.** Першы выпуск студэнтаў факультэту грамадзянскіх навук БДУ адбудзецца 1 сьнежня 1925 г.

У зьвязку з гэтым студэнтам III курсу эканамічнага і прававога аддзяленьняў упамянёнага вышэй факультэту запрапанована да 1 сакавіка гэтага году выбраць тэму для дыплёмнай працы.

Дыплёмныя працы павінны быць здадзены да 1 кастрычніка 1924 г,

### Кабеты арганізуюцца.

*(М. Беларучы).*

У сьнежні 1923 г. павятовы камітэт вылучыў упаўнаважнага ў справе арганізацыі кабет нашай воласьці. Упаўнаважаны ў студзені 1924 г. сабраў адну канфэрэнцыю, 3 лютага другую, і нашы кабеты сталі шмат іначай глядзець на ўсе справы. Сталі прымаць удзел у сходах, у выбарах і г. д.

Надта цікава адзначыць выбары ўправы нашага каапэратыву. Калі пачалі запісываць кандыдатаў, дык з усіх бакоў паляцелі словы: „Дуня"! „Малей Дуня"!, і Малей была ўпісана ў кандыдаты. Трудна было падумаць, што хто небудзь будзе галасаваць за яе, бо шмат было выстаўлена кандыдатаў самых лепшых людзей воласьці.

Але кабеты дастукаліся свайго. Выступае аднадругая, кажуць, што Дуня надта добрая, пісьменная і г. д. Выступае яшчэ адна і кажа, што мы, кабеты, абавязкова павінны правясьці ўва ўправу адну кабеціну і маем надзею, што „Дуня" будзе лепей працаваць за якога небудзь мужчыну.

Прышлося ўсім згадзіцца, і Дуня выбіраецца аднагалосна.

Гледзячы на працу кабет відаць, што ў іх шмат энэргіі. За кароткі час імі ўжо шмат зроблена і ёсьць надзея, што ў будучым праца і ўдзел кабет у Савецкім будаўніцтве будзе што раз мацнець. **К.**

## З Слуцка.

3-га студзеня г.г. адбылося паседжаньне Слуцкага павятовага выканаўчага камітэту, на якім быў заслуханы даклад дырэктара Слуцкага сельска-гаспадарчага тэхнікуму тав. Сабалеўскага аб дзейнасьці тэхнікуму.

Стварэньне тэхнікуму было нялёгкім заданьнем і патрабавала шмат працы і стараньняў. Захаваньне і замацаваньне яго дыктуецца самым жыцьцём. Сялянства павету ўжо зразумела патрэбу тэхнікуму і горнецца да яго, як да найбольш блізкай і даступнай крыніцы сельска-гаспадарчай веды.

З дакладу выявілэля, што ў бягучым школьным годзе ў тэхнікуме лічыцца 85 слухачоў, на 95 проц. паходзячых з бяднейшага сялянства павету. Прапускная здольнасьць тэхнікуму Наркамземам Беларусі ўстаноўлена ў 120 чалавек. Выкладчыкаў лічыцца 7 чалавек, у тым ліку 5 штатных і 2 няштатных, усе з спэцыяльнаю вышэйшяю асьветаю. Не зважаючы на незакончанасьць арганізацыі тэхнікуму, вучэбная яго дзейнасьць знаходзіцца на належнай вышыні.

У сучасны момант тэхнікум вядзе падгатоўчую працу ў справе плянаваньня і нівэльляваньня сваіх палёў, а таксама ў справе змаганьня з забалочаннасьцю сенажацяў. **Ж.**

### Сяляне імкнуцца да асьветы.

*(М. Вызна).*

У нашай воласьці 2 лютага адчыніліся двохтыднёвыя сельска-гаспадарчыя курсы. Калі было абвешчана аб гэтых курсах на сходзе сялян, дык бадай усе пажадалі запісацца ва курсы. У слухачы курсаў запісалася такім чынам больш, як сто сялян. Відаць, пасьля вялікай барацьбы радавае ўлады за асьвету, сяляне зразумелі неабходнасьць яе. **Быльнік.**



### Ліквідацыя няпісьменнасьці.

*(М. Грозаў).*

У мястэчку арганізавана вячэрняя школа па ліквідацыі няпісьменнасьці, разьлічаная на 25 чалавек. Школа ў першую чаргу ўкамплектавана няпісьменнымі і малапісьменнымі сябрамі праф. саюзаў і членамі К.С.М. Заняткі пачаліся 20 студзеня ў будынку сямёхгодкі. Выкладаюцца: беларуская мова, арытмэтыка і паліт-грамата. Заняткі вядуць настаўнікі сямёхгодкі, выдзеленыя пазашкольнаю Радаю ў згодзе з мясцкомам Саюзу Прац. Асьветы. **Міна.**

## Пісьмо у Рэдакцыю.

Прэзыдыум Агульнага Сходу сяброў Бел. Грам. Сабраньня, які адбыўся 3 лютага г. г. просіць Вас, паважаны грам. Рэдактар, зьмесьціць у Вашай газэце пратакол гэтага Сходу.

Сэкратар Сходу
**І. Савіцкі.**

### Пратакол Агульнага Сходу Сяброў Беларускага Грамадзянскага Сабраньня 3 лютага 1924 г.

На сходзе прысутнымі зьяўляюцца 31 чалавек (сьпісак прыкладаецца).

I. Сход адчыняе прадсядацель Рады Старшынь Беларускага Грамадзянскага Сабраньня гр. Валэйша, які прапануе абраць Старшынёй Сходу пасла грамадз. Мятлу. Пасол Мятла аднагалосна абіраецца Старшынёй Сходу. Віцэ-старшынёй абіраецца гр. Міхалевіч А. і сэкратаром гр. Савіцкі I. Абвешчаны парадак дня гр. Валэйшаю Сходам прымаецца (парадак дня пры гэтым прыкладаецца).

II. Прадсяд. Рады Старшынь Бел. Гр. Саб. п. Валэйша дакладае Сходу, што з 20 просьбаў аб прыняцьці ў сябры Грамадзянск. Сабраньня 19 просьбаў задаволены, а просьба гр. Сьляжэвіча пераносіцца на агульны Сход 3 г. лютага.

Прымаючы да ведама даклад гр. Валэйшы, пастанавілі просьбу гр. Сьляжэвіча аб прыняцьці яго ў лік сяброў Бел. Грам. Сабраньня перадаць на разгляд новай Рады Старшынь з тым, каб яна пастанову сваю адносна гр. Сьляжэвіча прадставіла на зацьверджаньне чароднага агульнага Сходу.

III. Выслухаўшы справаздачу прадсяд. Рады Старшынь Бел. Грам. Сабраньня гр. Валэйшы і Рэвізыйнае Камісіі ў асобе гр. Кэпэля аб агульнай дзейнасьці Ураду Грам. Сабраньня на чале з прадсяд. яго гр. Валэйшай за мінулы 1923 г., Агульны Сход сьцьвярджае поўную хаотычнасьць у рахунковасьці і бязладзьдзе ў вядзеньні Урадам гаспадаркі Сабраньня, выражае сваё недаверые ўсяму Ураду Сабраньня і адначасна прыносіць шчырую падзяку Рэвізыйнай Камісіі за яе сумленнае выкананьне сваіх абавязкаў. Паміж іншым Рэвізыйная Камісія ў сваім дакладзе аднатавала, што на руках гр. Валэйшы знаходзіцца 630 польскіх злотых грошаў Грам. Сабраньня.

IV. Заслухаўшы даклад гр. Валэйшы аб буджэце на 1924., Сход пастанаўляе прадставіць новаму Ураду перарабіць гэты буджэт з тым, каб ён быў зацьверджаны чарговым Агульным Сходам.

V. Дзеля таго, што старому Ураду вынесена было недаверые, ён падаўся ў адстаўку. Былі намечаны кандыдаты ў старшыні новай Рады і зроблены выбары пры помачы балятыроўкі шарамі, якія далі наступныя вынікі.

Выбранымі ў Старшыні Бел. Грамадз. Сабраньня аказаліся ў парадку большасьці атрыманых галасоў наступныя асобы:

1) Багдановіч Ген. за 23 — 1, 2) Рак-Міхайлоўскі за 23—1; 3) Пяткевіч М. за 22—2; 4) Савіцкі I. за 20—3; 5) Міхалевіч А. за 20—3; 6) Кэпэль за 20—4; 7) Астроўскі Р. за 19—3; 8) Самойла за 19—4; 9) Гапановіч Я. за 18—6; 10) Біндзюк Пав. за 18—5; 11) Пачопка за 18—6; 12) Сіняўскі М. за 14—10; кандыдатамі к ім: 1) Чарняўскі, 2) Станкевіч, 3) Манкевіч, 4) Яцына. У Рэвізыйную Камісію абралі наступных асоб: 1) Лукашэвіч В. за 21—1; 2) сьв. Сурвіла за 19—3; 3) Гаўрыловіч за 16—6; кандыдатамі к ім: 1) Палешка і 2) Багдановіч Аўг.

VI. Разглядалі пытаньне аб вышыні сяброўскіх складак. Пастанавілі: дзеля таго, што гэтае пытаньне цесна зьвязана са складаньнем буджэту і агульным плянам гаспадаркі Сабраньня, які перададзен для пераробкі новаму Ураду, па пастанове гэтага-ж Сходу, перадаць новаму Ураду ўстанаўленьне вышыні сяброўскіх складак з тым, каб гэтая справа была зацьверджана на чародным Агульным Сходзе.

VII. Агульным Сходам было запрапанована б. прад. Рады Старшынь (старой) гр. Валэйшы склікаць у якнайхутчэйшым часе арганізацыйны Сход новай Рады старшынь для перадачы ёй спраў Грам. Сабраньня.

Пратэстаў проціў неправамочнасьці Агульнага Сходу не пастпала.

Старшыня Сходу **П. Мятла.**
Сэкрэтар **І. Савіцкі.**



Рэдактар-Выдавец **М. Шыла.**

Друкарня Левін і Сын. Вільня. Нямецкая 22.